«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 62 (4622)

17 жніўня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

НЕЗАБЫЎНАЕ

## Год таму па ўсёй Беларусі прайшлі грандыёзныя мітынгі прыхільнікаў перамен



16 жніўня 2020 года. Ля стэлы «Мінск – горад-герой».

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не губляйце сувязі з «Народнай Воляй»!

Шаноўныя прыхільнікі «Народнай Волі»!

Мы разумеем, якую ролю ў Вашым жыцці адыгрывае незаангажаванае **свабоднае СЛОВА**, якое не прайшло праз абмежаванні жорсткай цэнзуры.

Такое **свабоднае СЛОВА** вось ужо 27-ы год даносіць «Народная Воля». І рэдакцыя прымае ўсе высілкі для таго, каб наша і ваша газета як мага хутчэй змагла друкавацца на паперы і даходзіць да чытачоў у ранейшым варыянце. На жаль, пакуль нам адмоўлена ў паліграфічных паслугах як у Беларусі, так і ў Расіі. А таму працягваем выдаваць «Народную Волю» ў электронным варыянце. Вядома ж, не ўсе Вы, сябры, карыстаецеся камп'ютарам. Але выйсце ёсць: не можа быць, каб нехта з Вашых родных, сяброў, суседзяў, саслужыўцаў не быў у ладах з сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. Папрасіце іх, каб яны за Вашы сродкі падпісалі Вас на PDF-версію газеты, і ўжо праз іх Вы зможаце атрымліваць самыя свежыя нумары «Народнай Волі» ў раздрукаваным выглядзе.

Падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце ***belpressa.by***. Для гэтага трэба зайсці на сайт ***belpressa.by***, націснуць ўкладку ***«2021»*** і выбраць месяцы, на якія вы будзете афармляць падпіску.

Паколькі рэдакцыя ўжо каторы месяц не мае даходаў ад рэалізацыі выдання праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то мы рэальна зацікаўлены ў павелічэнні падпісчыкаў на PDF-версію.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:

СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.

2.Через БАНК:

ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а

р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,

Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск

УНП 100961759, ОКПО 37381505

Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ЧУЛІ?

## Жонка Валянціна Стэфановіча з'ехала з дзецьмі ў Грузію

Не хацеў пакідаць Беларусь праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**, а вось яго жонка **Аліна** пасля арышту мужа была вымушана пераехаць з трыма дзецьмі ў Грузію. Паводле яе слоў, мужу будзе спакайней, калі даведаецца, што сям'я знаходзіцца ў бяспецы.

Дарэчы, Аліна за месяц атрымала ад Валянціна ўсяго адзін ліст, у якім той паведаміў, што *«спадзяецца на лепшае»*.

*«Я ведаю, што адбываецца апошнімі днямі ў нашай краіне, – напісаў Валянцін. – Наш арышт – зразумелая з'ява ў гэтай сітуацыі.*

*Я настройваюся на вельмі доўгую разлуку са свабодным светам, але ўсё адно спадзяюся на лепшае.*

*Усё пройдзе, пройдзе і гэта, і мы зноўку будзем разам»*.

Віктар ШПАК.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

## Александр КЛАСКОЎСКІ: «Беларускай жнівеньскай рэвалюцыі было наканавана быць мірнай»

***Палітычны аглядальнік – пра галоўныя ўрокі жніўня 2020-га.***

16 жніўня 2020 года на вуліцы Мінска ды іншых беларускіх гарадоў выйшлі сотні тысяч беларусаў. Яны пратэставалі не толькі супраць афіцыйных вынікаў выбараў – іх абурыў беспрэцэдэнтны гвалт у дачыненні да тысяч затрыманых у першыя дні пасля завяршэння кампаніі.

Ці маглі беларусы здабыць свабоду ў тыя дні, якія памылкі дапусцілі лідары пратэсту, чаму беларусаў навучыў жнівень 2020-га? На гэтыя ды іншыя пытанні «Салідарнасці» адказаў палітычны аглядальнік **Аляксандр Класкоўскі**.

### Пра шанцы на перамогу

*– На мой погляд, беларускай жнівеньскай рэвалюцыі было наканавана быць мірнай. З шэрагу прычын. Тут і ўвогуле ментальнасць беларусаў, і тое, што выходзілі пераважна людзі неваяўнічыя. Касцяк маніфестантаў складалі прадстаўнікі прасунутага класа, сярэдняга класа – айцішнікі, прадпрымальнікі, студэнты, інтэлігенцыя.*

*Гэта не былі нейкія адмарозкі, як гэта потым малявала афіцыйная прапаганда. Так, мелі месца лакальныя сутычкі, але ўвогуле людзі былі настроеныя на мірны пратэст,* – падкрэсліў эксперт.

Калі ўявіць адваротную сітуацыю – гвалтоўны пратэст, мэтанакіраванае супрацьборства з сілавікамі, спробы захапіць нейкія адміністрацыйныя будынкі, то ў Аляксандра Лукашэнкі хапіла б кулямётаў, каб спыніць людзей, упэўнены ён.

Акрамя таго, у выпадку перамогі рэвалюцыі была вялікая імавернасць, што тут высадзяцца пскоўскія дэсантнікі:

*– Пуцін быў гатовы дапамагчы, потым ён пра гэта сказаў. У пэўным сэнсе гэта была фатальная сітуацыя. Бо цяперашняя Расія, сённяшні Крэмль не могуць дапусціць, як яны кажуць, каляровай рэвалюцыі ў суседняй краіне, якую лічаць сваім стратэгічным плацдармам. Жнівеньскія падзеі маглі стаць больш крывавымі, але шанцаў перамагчы ў тых пратэстаў, думаю, было няшмат.*

### Што (не) зрабілі лідары пратэсту

*– У той сітуацыі старая апазіцыя апынулася ўбаку, увогуле ніякай ролі не іграла. Новыя лідары былі людзьмі неспрактыкаванымі і ў пэўнай ступені ідэалістычнымі, настроенымі вырашаць праблемы законнымі сродкамі ў сітуацыі, калі законы не працуюць. У іх не было нейкага сапраўды дзейснага плана, дый не магло, напэўна, быць.*

Пры гэтым, на думку эксперта, новыя лідары за адносна кароткі час той выбарчай кампаніі заўважна эвалюцыянавалі:

*– Тая ж Святлана Ціханоўская, людзі з каманды Віктара Бабарыкі за некалькі месяцаў з невядомых персон сталі яркімі і адметнымі фігурамі. І гэта максімум, я думаю, чаго яны маглі дасягнуць. Яны паспрыялі народнаму ўздыму, які ўразіў, нават шакіраваў уладу. У першыя дні пасля выбараў былі пэўныя ваганні сярод сілавікоў, наменклатуры.*

Аляксандр Класкоўскі падкрэсліў, што лідары пратэсту і іх штабы, відаць, недаацанілі, наколькі важна было працаваць з прадстаўнікамі ўладных эліт – як падчас выбарчай кампаніі, так і ў першыя дні пасля выбараў, калі ішлі масавыя пратэсты:

*– Мы бачылі, што тады некаторыя мясцовыя кіраўнікі вагаліся і нават дазвалялі пэўныя ліберальныя рэчы, напрыклад у Гродне. Лідары пратэсту маглі б мацней працаваць з вертыкаллю, чынавенствам, сілавікамі ў гэты момант. Хаця, кладучы руку на сэрца, наўрад ці было рэальна перацягнуць іх цалкам на свой бок.*

Таксама, на думку аглядальніка, была недаацэнена праца з рабочымі прадпрыемстваў, якія ў такія гістарычныя моманты іграюць важную ролю. У выніку ж, як вядома, нацыянальны страйк не адбыўся.

### 16 жніўня

Аляксандр Класкоўскі нагадвае, што ў першыя пасля выбараў дні, у тым ліку і 16 жніўня, на вуліцах панавала самаарганізацыя людзей. Трэба прызнаць, што сваю ролю адыгралі і тэлеграм-каналы. Марыя Калеснікава спрабавала ў нейкія моманты выйсці ўперад калоны. Але ўвогуле персанальнага лідарства відавочна не ставала.

Пры гэтым палітычны аглядальнік прызнае, што тагачасныя лідары не маглі скочыць вышэй за пояс:

*– Выйшаў бы тады лідар – і што? На штурм прэзідэнцкага палаца мусіў павесці людзей? Нейкага плана перамогі над добра ўзброенай прэтарыянскай гвардыяй Лукашэнкі не было. І, напэўна, не магло і быць.*

Паводле слоў суразмоўцы «Салідарнасці», у той момант многае залежала ад настрояў сілавікоў і наменклатуры. Так, частка з іх вагалася, хтосьці, кажучы словамі Лукашэнкі, гатовы быў залезці пад плінтус, але большасць была поўная рашучасці дзейнічаць усімі сродкамі.

*– Ужо стаялі каля палаца Лукашэнкі БТРы. Я думаю, калі б дайшло да крытычнай сітуацыі, мог бы быць адкрыты агонь з буйнакаліберных кулямётаў. Так, можна сказаць, што жнівенская рэвалюцыя была ўзлётам беларускага нацыянальнага духу, яна была прыгожым парывам да свабоды.*

Але з улікам той узброенай сілы, якую меў Лукашэнка, і таго, што за спінай у яго стаяў Пуцін, шанцаў на перамогу ў рэвалюцыі практычна не было.

Палітаглядальнік прыгадаў крытыку з боку ўкраінцаў, якая досыць часта гучала пасля жнівеньскіх падзей у Беларусі. Маўляў, трэба было нам дзейнічаць больш рашуча і жорстка, так, як гэта было ў іх падчас апошняга Майдана.

*– Тут трэба глядзець глыбей. Ва Украіне не было такога жорсткага аўтарытарызму, там быў раскол эліт, там былі прыватныя тэлеканалы, алігархі, якія сілкавалі Майдан. У Беларусі Лукашэнка стварыў за гэтыя гады занадта жорсткую аўтарытарную сістэму. У нас не было расколу эліт, таму шанцы на перамогу ў прыхільнікаў змены ўлады былі мізэрныя. Для гэтага патрэбны быў нейкі ўнікальны збег абставін. У прыватнасці, калі б па ўсёй краіне застрайкавалі прадпрыемствы, гэта магло б стаць пераломным момантам.*

### Галоўныя ўрокі жніўня

*– Я згадваю апошнія дні перад выбарамі, калі разам з іншымі журналістамі задаваў лідарам палітычнай альтэрнатывы пытанні кшталту: «Вось людзі выйдуць на вуліцы. Ці ёсць у вас нейкі план, ці гатовы вы стаць наперадзе?» І тыя, магчыма, у пэўнай ступені з меркаванняў канспірацыі, але насамрэч, я думаю, не маючы дзейснага плана, дэкларавалі нейкія банальнасці, агульныя словы, не давалі ўцямнага адказу.*

На думку палітаглядальніка, лідары ў кожным разе мусяць несці адказнасць за тых, хто выходзіць на вуліцу. Але разам з тым цяжка патрабаваць немагчымага ад людзей, якіх імкліва вынес на такія ключавыя ролі збег абставін, пры тым што многія харызматычныя фігуры ўжо сядзелі за кратамі.

*– Што датычыць простых беларусаў, то праз год, калі ўсё здушана жорсткімі рэпрэсіямі, напэўна, у часткі з іх узнікае думка: «Ці варта было выходзіць, можа, трэба было адсядзецца, як мыш пад венікам?»*

*Я ўсё ж думаю, што свабода не звальваецца з неба сама, яна вымагае высілкаў і ахвярнасці. І хоць леташнія падзеі сталі вельмі драматычнай, нават трагічнай старонкай, але гэта была, напэўна, непазбежная старонка ў гісторыі Беларусі. І гэтыя падзеі ў кожным разе заклалі падмурак далейшай барацьбы за свабоду.*

**Сямён ПЕЧАНКО.**

ПЛАНЕТА: ГАРАЧАЯ КРОПКА

## «Міліцыя, армія – усе разбегліся»

*Афганскі палітык расказаў, што адбываецца ў Кабуле пасля прыходу талібаў*



Талібы ў пакінутым прэзідэнцкім палацы. Кабул.

Як афганцы рэагуюць на вяртанне талібаў? Свабода пагутарыла з тамтэйшым палітыкам, у мінулым віцэ-спікерам парламента, намеснікам старшыні партыі нацыянальнага адзінства Афганістана «Пайванд-Е-Міллі» **Абдулам Зухурам Размджо**.

Абдул Зухур Размджо – колішні член Палітбюро ЦК кіруючай Народна-дэмакратычнай партыі Афганістана (НДПА), першы сакратар Кабульскага гаркама партыі. Напрыканцы 1990-х вучыўся ў аспірантуры Беларускай політэхнічнай акадэміі.

Цяпер жыве з сям'ёй у спальным раёне на ўскрайку Кабула. Запэўнівае, што з'язджаць не збіраецца, хоць перспектывы суіснавання з новай уладай няпэўныя. Ад гэтага тысячы людзей штурмуюць аэрапорты і памежныя пераходы, намагаючыся перачакаць невядомасць у іншых краінах.

*«Пакуль што абстаноўка ў горадзе збольшага спакойная – зрэшты, паглядзім, як будзе далей. Талібы прыйшлі, гэта ўжо факт. Але прынамсі скончыўся час трывожнага чакання, бо ўсё роўна гэта было справай часу. Супраціву ім фактычна не аказвалася. Не скажу, што ўсё добра, але выязджаць не думаем, прынамсі на гэты момант такіх планаў не маем. Хоць ведаю, што ў аэрапортах, на вакзалах вялізная колькасць тых, хто не рызыкуе заставацца пад талібамі».*

Наш суразмоўца дзеліцца першымі ўражаннямі ад талібаў: не такія жорсткія, як іхнія папярэднікі на пачатку нулявых. І хоць законы шарыяту выглядаюць непазбежнасцю, прынамсі можна спадзявацца, што не дойдзе да вялікага крывапраліцця.

*«Так, тады яны паводзілі сябе нашмат больш жорстка, быў сапраўдны тэрор з улікам адаптаваных метадаў муджахедаў, «Аль-Кайды» і г.д. Але такое адчуванне, што набраліся пэўнага досведу і разумеюць: калі хочаш мець хоць нейкую падтрымку грамадства, нельга абапірацца толькі на сілу. Хоць, паўтаруся, нічога толкам не вядома, можа пасля рэжым будзе размаўляць з намі зусім па-іншаму».*

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
17 ЖНІЎНЯ 2021 г.

ПЛАНЕТА: ГАРАЧАЯ КРОПКА

# «Міліцыя, армія – усе разбегліся»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Пакуль што прыход «Талібана» не прывёў да прагназаванага грамадскага паралічу: у сталіцы працуюць банкі, крамы, рэдакцыі, транспарт. Адзінае – можна чакаць рэзкага росту захворвання на каранавірус: талібы перакананыя «ковідныя дысідэнты».

*«У адпаведнасці з ісламскімі перакананнямі, калі чалавек захварэе і памрэ, ён тым самым набліжаецца да статусу шахіда і трапляе ў рай. Таму талібы не выконваюць ніякіх ахоўных захадаў, а з нас толькі пасмейваюцца: дурні якія, маскі нацягнулі! Маўляў, вера ў Бога мацнейшая, і толькі Ён вырашае твой лёс, а не медыцына. Таму цяжка ўявіць, як будзе ісці вакцынацыя, бо Кітай, краіны Захаду паставілі больш за мільён доз, а цяпер не выключана, што ўсё аб'явяць па-за законам».*

З гледзішча бяспекі сітуацыя і ў Кабуле, і ў правінцыях збольшага прымальная, кажа Абдул Зухур Размджо. Адчуванне, што новы рэжым сам зацікаўлены прыйсці да ўлады з найменшымі людскімі стратамі. Хоць факты гвалту ўсё ж фіксуюцца, асабліва калі ёсць супраціў не месцах.

*«Талібы заклікаюць выходзіць на працу, абяцаюць плаціць заробкі – і мужчынам, і жанчынам. Толькі выконвайце іслам, насіце хіджаб. Праўда, адзін час у Кабуле былі прыкметы хаосу – калі прэзідэнт Ашраф Гані пакінуў краіну, а талібы толькі падцягваліся да горада. Паўдня не было ні ўлады, ні дзяржавы. Як вынік, народ кінуўся рабаваць банкі, крамы, установы. Бо міліцыя, армія – усе разбегліся, ніхто і не думаў адстрэльвацца да апошняга патрона. У выніку бліжэй да вечара 15 жніўня талібы ўзялі кантроль у свае рукі, паставілі пасты каля стратэгічных аб'ектаў і спынілі марадзёраў».*

Паводле слоў палітыка, у дамах чыноўнікаў колішняй адміністрацыі адбываюцца ператрусы, але празмернай жорсткасці з боку талібаў не назіраецца. Ці дойдзе да мэтанакіраванай «зачысткі» апанентаў, пытанне на гэты момант адкрытае.

*«Усе чакаюць нейкай цырымоніі перадачы ўлады, каб зразумець, якой будзе палітыка на найбліжэйшую будучыню. Таму пакуль што людзі стараюцца адседзецца, прыгледзецца, што і як. Прынамсі, няма такога, каб кропкава праследавалі колішніх камуністаў ці тых, хто супрацоўнічаў з амерыканцамі. Зразумела, будзе вельмі жорстка выконвацца рэжым шарыяту, а гэта ў любым выпадку пацягне наступствы – не ўсе гатовы зноў скаціцца ў сярэднявечча».*

Таксама не вядома, абмяжуюцца талібы толькі Афганістанам або будуць намагацца ўсталяваць кантроль над суседнімі краінамі Сярэдняй Азіі.

### Гісторыя Абдула Зухура Размджо

Лёс самога Абдула Зухура Размджо – гэта наўпроставае адлюстраванне драматычнай гісторыі Афганістана апошніх дзесяцігоддзяў. На момант уводу савецкіх войскаў ён толькі скончыў політэхнічны інстытут у Кабуле, атрымаў інжынерную спецыяльнасць. Пры новай уладзе, падтрыманай Масквой, зрабіў партыйную кар'еру – у 30 гадоў стаў першым сакратаром Кабульскага гаркама партыі. Самастойна авалодаў рускай мовай.

Даслужыўся да намесніка старшыні афганскага парламента. Быў шчаслівы ў сямейным жыцці – у яго і жонкі Пары, таксама партыйнай актывісткі, пяцёра дзяцей. Але з выездам савецкіх куратараў тылы агаліліся, і ён як адзін з кіраўнікоў НДПА ў сярэдзіне 1990-х трапіў «на мушку» да талібаў.

Каб уратавацца, многія кіраўнікі перайшлі ў муджахедскія групоўкі. Хто не захацеў супрацоўнічаць, уцяклі – у Пакістан, Таджыкістан, Узбэкістан. Абдул Зухур застаўся, давялося «залегчы на дно» на поўнач ад Кабула, у Пулі-Хумры. Не займаўся ні палітыкай, ні грамадскай дзейнасцю. А калі прыйшлі талібы, пра яго зноў успомнілі.

«Талібан» заручыўся падтрымкай групоўкі «Аль-Кайда», іх супольнага націску муджахеды не вытрымалі і ўладу здалі. Як кажа Абдул Зухур, «добразычліўцы» паспяшаліся інфармаваць палявых камандзіраў, што ў горадзе аб явіўся паплечнік аміна Саіда Мансура Надэры, духоўнага лідара нізарытаў – ісмаіліцкае адгалінаванне не ў пашане ў пуштунаў, якія складалі касцяк «Талібана». А галоўнае – ён колішні член Палітбюро, набліжаны да камуністаў Кармаля і Наджыбулы, якія абвясцілі вайну прававерным мусульманам.

Такога паслужнога спіса было дастаткова для арышту – Размджо абвінавацілі ў «шпіянажы». Яго катавалі, білі ланцугамі, перабілі хрыбет. Урэшце павялі на расстрэл, але ў апошні момант пашкадавалі – арыштант нават у перадсмяротныя хвіліны не спыняўся пераконваць, што ён такі ж афганец-патрыёт.

На нейкі час пакінулі ў спакоі – як аказалася, ненадоўга: пачалі патрабаваць грошай, інакш дакладна заб'юць. Сям'і, сваякам усё ж удалося яго ўратаваць. Нечакана ўзніклі пытанні ў іншым лагеры: чаму колішняга прэзідэнта Наджыбулу забілі, а аднаго з кіраўнікоў парламента Размджо адпусцілі? Так апынуўся паміж двума «каткамі». Нічога не заставалася, як падацца ва ўцёкі. Спачатку ў Пакістан, адтуль абыходнымі маршрутамі – у Расію і затым у Беларусь. Гэта быў 1998 год.

Так ён стаў аспірантам Беларускай політэхнічнай акадэміі. Яму выдзелілі пакойчык у інтэрнаце, на гэтай падставе атрымаў від на жыхарства ў Беларусі. А праз нейкі час сям'я ўз'ядналася – прыехала жонка з дзецьмі, адміністрацыя дала асобны жылы блок.

Тым часам здарылася 11 верасня 2001 года: тэрарысты «Аль-Кайды», якія раней падтрымалі талібаў, ажыццявілі беспрэцэдэнтныя атакі на вежы бізнес-цэнтра ў Нью-Ёрку ды іншыя аб екты ў ЗША. У адказ войскі NATO распачалі аперацыю адплаты ў Афганістане. Праз нейкі час, калі быў вызвалены Кабул ды іншыя тэрыторыі, выпускнік аспірантуры зазбіраўся на радзіму. Беларускі перыяд завершыўся.

Па вяртанні давялося пачынаць з нуля – дом быў разбураны, маёмасць знішчана. Заняўся выкладчыцкай працай, удзельнічаў у партыйным жыцці. Але не мае пэўнасці, што звыклы лад існавання застанецца нязменным пры непрадказальным рэжыме «Талібана».

ТЫМ ЧАСАМ

## Наталля ПІНЧУК: «Алесь ніякай віны за сабой не адчуваў і не адчувае…»

*Крыху больш за месяц знаходзяцца за кратамі праваабаронцы Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч і Уладзімір Лабковіч.*

Пасля ператрусаў, допытаў і некалькіх сутак у ізалятары часовага ўтрымання праваабаронцаў перавялі ў СІЗА на Валадарскага, дзе яны знаходзяцца і зараз.

У мінулым месяцы ў судзе Партызанскага раёна Мінска ў закрытым рэжыме была разгледжана скарга абаронцы Алеся Бяляцкага на пастанову аб прымяненні меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту, але суддзя **Міхаіл МАКАРЭВІЧ** не задаволіў скаргу.

Дарэчы, адвакаты знаходзяцца пад падпіскай аб неразгалошванні, таму яны не могуць распавесці абставіны справы.

– Практычна ніякіх навін ад Алеся няма, – распавяла «Народнай Волі» **Наталля ПІНЧУК**, жонка Алеся Бяляцкага. – Лістоў ад яго атрымліваю вельмі мала, не параўнаць з тым часам, калі дзесяць гадоў таму мужа таксама арыштавалі, а затым асудзілі. Ён тады вельмі актыўна пісаў лісты не толькі мне, але і іншым сябрам і знаёмым.

А зараз за месяц я атрымала ўсяго чатыры лісты. Алесь іх нумаруе, таму бачна, што некаторыя проста не праходзяць цэнзуру. Напрыклад, першым мне прыйшоў ліст пад нумарам тры, затым – другі і шосты…

**– Пра што піша Алесь?**

– Тыя лісты, што прарваліся на волю, вельмі кароткія па змесце і ў асноўным бытавога характару. Думаю, Алесь усведамляе, што яго лісты не даходзяць, а таму спрабуе хаця б малым фарматам нешта пра сябе паведаміць.

Трэці ліст быў напісаны наогул ледзь не на абрыўку паперы. Не ведаю, якая там сітуацыя з паперай, але я перадавала яе ў ізалятар.

**– Пра ўмовы ўтрымання, сваё здароўе нешта паведамляе?**

– На жаль, у лістах пра гэта нічога няма. Хаця перадачы для яго прымаюць – і прадукты, і канверты, і ўсё астатняе.

**– Ці былі ў Алеся перасцярогі, што справа можа закончыцца арыштам?**

– Так, ён разумеў, што ў любы момант можа апынуцца за кратамі, але ў той жа час з'язджаць за мяжу ў яго планах не было, хаця зрабіць гэта мог даволі проста. За сабой Алесь ніякай віны не адчуваў і не адчувае.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Якія навіны ў Юліі Слуцкай?

*Пра гэта «Народная Воля» запытался ў яе дачкі Аляксандры.*

Не так даўно **Аляксандра Слуцкая** распавядала, што ў **Юліі Слуцкай** узніклі праблемы са зрокам, былі складанасці і з перадачай лекаў, да заснавальніцы беларускага «Прэс-клуба» не даходзілі лісты.

Па «справе «Прэс-клуба» праходзіць і сын Юліі Слуцкай **Пётр**. Пра брата Аляксандра ведае, што да нядаўняга часу ён сядзеў у перапоўненай камеры – разам з ім было 23 чалавекі.

«*Пакуль ніякіх навін няма, проста няма чаго распавесці*, – адказала «Народнай Волі» Аляксандра. – *Адвакат наведвае маму па-ранейшаму раз на тыдзень. Са здароўем у яе, здаецца, больш-менш, наколькі гэта, зразумела, можа быць ва ўмовах СІЗА. Лісты ад маці па-ранейшаму ідуць вельмі дрэнна. У гэтым сэнсе ніякага прагрэсу няма.*

*Пра суд гаворкі ўвогуле пакуль няма. Вось такія навіны. Як толькі будзе магчымасць штосьці распавесці яшчэ – абавязкова распавяду. Пакуль так*».

**Аліна ВЕТРАВА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Соф'я ЦІХАНОЎСКАЯ: «Нішто не застанецца беспакараным…»

**Сяргея Ціханоўскага** разам з **Міколам Статкевічам**, **Ігарам Лосікам**, **Арцёмам Сакавым**, **Дзмітрыем Паповым** і **Уладзімірам Цыгановічам** ужо другі месяц судзяць у закрытым рэжыме ў гомельскім СІЗА-3. Блогераў і палітыка хочуць прызнаць вінаватымі ў шэрагу цяжкіх злачынстваў, у тым ліку ў арганізацыі масавых беспарадкаў у перыяд падрыхтоўкі і правядзення прэзідэнцкіх выбараў.

Маці блогера Ціханоўскага **Соф'я Яфрэмаўна**, якая жыве ў Гомелі, кажа, што ў суд яе не выклікалі і яна, па сутнасці, не ведае, як вядзецца судовае разбіральніцтва ў следчым ізалятары.

«*Бог ёсць на свеце. Тое, што зрабілі ў нас на дачы (пасля шматгадзіннага ператрусу нечакана знайшлі за канапай 900 тысяч долараў), маглі зрабіць толькі людзі без сумлення. Нішто не застанецца беспакараным*», – сказала «Народнай Волі» Соф'я Ціханоўская.

Праз згаданую «знаходку» суд Савецкага раёна Гомеля ў чэрвені на падставе іску падатковай інспекцыі вырашыў спагнаць з Сяргея Ціханоўскага амаль 258 тысяч беларускіх рублёў падвышанага падатку. Гэта акалічнасць стала дадатковым галаўным болем і для маці блогера. У скарзе Ціханоўскі пісаў, што гэта не яго грошы, ён не ведае пра іх паходжанне. І расходаваць іх блогер не мог, бо ўвесь час знаходзіўся ў СІЗА. Хаця сілавікі сцвярджаюць, што грошы належаць менавіта Ціханоўскаму, які атрымаў іх на правядзенне пратэстаў.

За ўвесь час знаходжання Сяргея ў Гомелі Соф'я Яфрэмаўна бачылася з сынам толькі адзін раз, калі мела з ім кароткае спатканне. Пераканана, што сыну цяжка, бо там, дзе ён, – не Рыа-дэ-Жанейра. Маці і самой надзвычай складана, бо яна кепска сябе пачувае.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ГОЛАС НА ВОЛЮ

## Аляксандр ФЯДУТА: «Дэманструю чайкам, што я ў форме»

*Прыйшлі навіны з-за кратаў ад Аляксандра Фядуты. Мяркуючы па ўсім, настрой у вядомага журналіста, палітолага і філолага бадзёры.*

Калі хтосьці са шкадаваннем ловіць апошнія тыдні лета, дык Аляксандр Іосіфавіч ставіцца да гэтага зусім па-іншаму: «*Вось пра што я дакладна не шкадую, дык гэта пра цяперашняе лета. Яно далося мне вельмі цяжка. Гарачыня была амаль невыносная. 28 чэрвеня, напрыклад, у самы разгар спёкі, нават пачаў губляць прытомнасць… Зараз, дзякуй Богу, мне лягчэй*».

Фядута імкнецца падтрымліваць сябе ў тонусе і не губляе пачуцця гумару: «*Падчас шпацыраў па нашым бетонным дворыку ўмудраюся рабіць нейкія фізічныя практыкаванні, дэманструючы чайкам, якія пралятаюць над галовамі з дзікім рогатам, што я ўсё яшчэ ў форме*».

Нягледзячы на змрочныя абставіны, вядомы філолаг выношвае пэўныя творчыя планы – абдумвае кнігу аб падзеях, якія адбываліся ў Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі пасля паразы паўстання 1863 года, грунтуючыся на ўспамінах аднаго з чыноўнікаў канцылярыі генерал-губернатара Мураўёва. «*У сукупнасці атрымаецца цудоўная кніга, значная частка якой будзе апублікавана ўпершыню*», – упэўнены Фядута.

ПОДРОБНОСТИ

## Бывшая жена Владимира Мацкевича уехала из страны

***Светлана Мацкевич** говорит, что решение об отъезде приняла практически сразу после обыска.*



– У меня был запланирован выезд на лечение, но после того, что случилось, я поняла, что нужно уезжать, оставаться в Беларуси для меня было бы небезопасно, – *рассказала Светлана «Народной Воле».*

**– Буквально на днях стало известно, что философа Владимира Мацкевича перевели с Окрестина на Володарку. Как его состояние – моральное и физическое?**

– До недавнего времени была информация, что он хорошо себя чувствует, бодр и весел. Как сейчас, после переезда, – не знаю, адвокат пытается к нему попасть.

**– У Мацкевича была возможность уехать. Тем более за границей сейчас его коллеги по «Белсату», где он был одним из ведущих передачи «Размова», уехали аналитики Карбалевич и Класковский. Почему он решил остаться, если прекрасно понимал, что рано или поздно за ним придут?**

– Он хотел остаться, чтобы иметь возможность высказывать свою позицию. Чтобы демонстрировать, что внутри Беларуси сохраняется гражданское сопротивление. Он открыто обо всем говорил.

**– Вы очень активно вступились за Мацкевича, активно поддерживаете его. Я даже удивилась, когда буквально на днях узнала, что вы, оказывается, давно развелись…**

– Мы достаточно долго с ним были в браке, около 20 лет, но три года назад разошлись. При этом сохранили дружеские отношения, вместе работали над рядом проектов, интересовались жизнью друг друга.

**– Кто ему сегодня носит передачи?**

– Мы решили этот важный вопрос перед моим отъездом. Передачи Володе передает его родная сестра. Мы с ней постоянно на связи. Ну и есть много желающих помочь – срабатывает гражданская солидарность.

**Марина КОКТЫШ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор,
доктор экономических наук



# Стоит ли надеяться на Селиверстова и Каллаура?

Власти опубликовали итоги исполнения бюджетов за первую половину года. Согласно данным, дефицит республиканского бюджета составил более полутора миллиарда рублей. К концу текущего года в Беларуси ждут рекордный дефицит. Ожидается, что дефицит республиканской казны превысит 6 миллиардов рублей. Республиканский бюджет берет на себя бремя платежей по государственному долгу, предоставляет трансфертную поддержку местным бюджетам и Фонду социальной защиты населения. Поэтому его финансовое состояние во многом определяет состояние дел во всей экономике.

Чтобы по факту исполнять дефицитный бюджет, нужно найти источники финансирования этого дефицита, чем постоянно и занимается команда министра финансов Ю.Селиверстова. Собственно, основных источников покрытия дефицита бюджета всего два – это эмиссионные кредиты банковской системы, провоцирующие инфляцию, и государственные займы. Первый – самый простой и легко реализуемый. Но такое финансирование бюджета входит в прямое противоречие с достижением главной цели любого центробанка – обеспечение стабильности национальной денежной единицы, что означает для Беларуси минимум инфляции и минимум девальвации белорусского рубля. Для решения этой задачи команда главы Нацбанка П.Каллаура прилагает много усилий.

Так, с 21 июля действующая ставка рефинансирования Нацбанка повышена с 8,75% до 9,25% годовых. Формально ставка рефинансирования показывает, под какой процент главный регулятор готов кредитовать коммерческие банки в случае недостаточности у них собственных кредитных ресурсов. Реально она эту функцию не выполняет. Главный регулятор, проводя для банков кредитные аукционы, удовлетворяет их заявки на 5–8%. Значит, большинство банков уходят после аукциона несолоно хлебавши. Основная цель такого подхода Нацбанка – ограничить предоставление ликвидности банковской системе, так как кредитование главным регулятором банков и рефинансирование полученных ими от него кредитов своей клиентуре и есть основной источник роста денежной массы. Но инфляция все равно прет, как забродившее тесто из кадушки.

Следовательно, остается второй источник финансирования бюджета – внешние и внутренние государственные облигационные займы и внешние кредиты, которые и образуют основу государственного долга. В свете последних санкций Запада Минфину разместить свои евробонды на европейском финансовом рынке сегодня практически невозможно. Остается только российский рынок и теоретически китайский. О размещении облигаций Минфина, номинированных в российских рублях, в России ведутся переговоры, а финансировать дефицит бюджета нужно в текущем порядке.

Значит, нужно ускоренными темпами увеличивать внутренний госдолг, чем Минфин также занимается, размещая внутри страны выпуски гособлигаций, основными покупателями которых являются банки. Однако ресурсные возможности банковской системы Беларуси далеко не беспредельны. И так Нацбанк постоянно зажимает банкам ликвидность на кредитных аукционах. Помимо этого, как известно, вывод денег населением Беларуси из банковских срочных валютных депозитов длится уже почти полтора года. Более того, в последнее время он усилился. Вообще, динамика банковских депозитов населения – это достаточно емкий показатель его настроений и ожиданий. Этот своеобразный индикатор четко отреагировал в 2020 году сначала на коронавирусный кризис, потом на массовые протесты в августе вкупе с девальвацией рубля. Как результат – массовый вынос валютных депозитов из банковской системы. И эта тенденция, которая свела практически к нулю все усилия Нацбанка по дедолларизации экономики, продолжается. С начала текущего года объем депозитов в валюте всех видов в банковской системе уменьшился на 5,46%. На руках у населения за короткий период осели миллиарды долларов и евро.

Но в Беларуси в свое время создана такая структура с особым статусом, как Банк развития. Этот статус позволяет ему выпускать собственные облигации, средства от которых идут на государственные нужды, в том числе на поддержку республиканского бюджета. В начале июля власти увеличили лимит эмиссии облигаций, установленный для Банка развития, с 570 до 1665 миллионов рублей, а спустя два месяца его снова подняли. Однако, на сколько – не сообщается. В последнее время в статистике по стране стали пропадать данные, которые прежде были в открытом доступе. Вероятно, власти считают нецелесообразным показывать определенную информацию, говорящую об остроте ситуации в экономике. Об этом можно судить и по косвенным признакам.

Беларусь просит Россию предоставить новый кредит через Евразийский банк развития взамен не поступившего кредита МВФ на борьбу с эпидемией коронавируса. *«Отсрочка выплаты по долгу, рефинансирование долга на 1 миллиард долларов. Если бы нам россияне помогли дополнительно через Евразийский банк...»* – заявил А.Лукашенко в ходе «Большого разговора» с общественностью и СМИ. А 9 августа, ровно в годовщину президентских выборов, приняты очередные санкции США, которые направлены против правительства Беларуси и его подразделений, включая Нацбанк и ряд ведущих белорусских банков. К ним присоединились Великобритания и Канада. Причем это санкции немедленного действия. Главный тут вопрос совершения белорусскими экономическими агентами валютных расчетов, большинство из которых производится в долларах и контролируется американскими банками.

Никому пока в целом не понятно, как отразятся западные санкции на экономике страны и ее экспорте. Сколько денег и с какими условиями в помощь Беларуси выделит Россия, если выделит вообще. Поэтому остается открытым вопрос, насколько у государства будет достаточно финансовых ресурсов для поддержки госпредприятий и покрытия растущего дефицита бюджета. Сегодня никто из экономических агентов, будь то население или бизнес, не может чувствовать себя в безопасности. Нет веры в будущее, воцарился экономический пессимизм. А это, на мой взгляд, может подействовать на экономику и людей хуже, чем все западные санкции, вместе взятые.

SOS!

# «Белшина»: убыток – 216 миллионов рублей, долги – 665 миллионов

*Удастся ли достать из финансовой ямы это крупнейшее предприятие?*

Власти Беларуси предприняли очередную попытку вытянуть бобруйскую «Белшину» из сложного финансового положения. Для этого наняли международную консалтинговую компанию для написания антикризисной стратегии.

Чтобы расплатиться по долгам, надо ежегодно наращивать выручку на 150–200 млн рублей. Но санкции США добавили головной боли. В итоге без помощи государства всё равно не обойтись.

Выручка «Белшины» за 2020 год сократилась с 735,5 млн до 700,5 млн рублей. Это следует из отчетности компании за минувший год по МСФО. Себестоимость реализованной продукции снизилась до 621,3 млн рублей.

В 2020 году шинный комбинат получил чистый убыток в размере 216,3 млн рублей, что в три раза больше в сравнении с 2019 годом. Его основу составили расходы по финансовой деятельности. В частности, госкомпания списала 128,8 млн рублей курсовых разниц от пересчета активов.

Долгосрочные заимствования выросли до 665,1 млн, краткосрочные – до 297,7 млн рублей. При этом краткосрочные обязательства превысили краткосрочные активы на 119,5 млн рублей. Чистые активы «Белшины» отрицательные и составили 336,4 млн рублей, итожат аудиторы.

В 2020 году «Белшина» произвела взаимозачет дебиторской и кредиторской задолженностей в размере 43,3 млн рублей, говорится в отчете.

Аудиторы поставили под сомнение способность предприятия продолжать работу непрерывно.

Впрочем, такая оговорка в отношении «Белшины» используется не один год. Однако государство не может допустить банкротства шинного комбината и всячески оказывает ему поддержку. То, что помощь будет продолжаться, заверил 4 августа и премьер-министр **Роман Головченко** во время визита в Бобруйск.

*«Речь не идет о новой господдержке в виде каких-либо финансовых вливаний. Мы договорились, что под реализацию стратегии [развития до 2025 года] рассмотрим возможность частичной реструктуризации задолженности и применения более льготных условий для ее погашения. Но она будет жестко увязана с реализаций тех мероприятий, которые прописаны в стратегии»*, – сказал он.




Головченко признал, что долговая нагрузка «Белшины» достаточно большая как перед бюджетом, так и перед коммерческими банками. Для восстановления бизнеса власти наняли международную консалтинговую компанию, которая разработала для бобруйского предприятия долгосрочную стратегию.

*«Потому что по-другому выйти из достаточно непростого финансового положения, в которое попала «Белшина» в силу ряда причин, наверное, невозможно»*, – отметил Головченко.

Он поставил перед руководством шинного комбината задачу *«каждый год пятилетки прибавлять в выручке по 150–200 млн рублей»*. Реализация этого плана, по мнению правительства, поможет «Белшине» расплатиться с долгами.

Гендиректор «Белшины» **Андрей Бунаков** уверил премьера в том, что у завода есть перспективы для дальнейшего развития.

*«Для этого мы реализуем ряд инвестиционных проектов, которые касаются в первую очередь крупногабаритных и сверхкрупногабаритных шин. Здесь необходимо поработать над качеством, но самое главное – это фундамент для дальнейшего развития нашего предприятия. Разработана стратегия, мы знаем, куда двигаться, и знаем, на каких рынках нас ждут. У нас есть заказы на второе полугодие»*, – подчеркнул Бунаков.

Приоритетным рынком сбыта в Беларуси для «Белшины» являются конвейеры таких предприятий, как МТЗ, МАЗ, БЕЛАЗ, «Гомсельмаш», «БобруйскАгромаш», «Амкодор», «БелДжи». Так, в 2020 году для комплектации Geely на завод под Борисовом было отправлено 46.537 бобруйских шин на сумму около 4 млн рублей.

*«Ведь бесперебойная поставка шин отечественным автомобилестроительным компаниям обеспечивает непрерывность производственного процесса на этих предприятиях и стабильную реализацию автомобильной продукции, является опорой для производства «Белшины», формирует рынок вторичной комплектации и положительно влияет на экономику страны в целом»*, – говорил ранее Бунаков.

Доля поставок предприятиям автопрома составляет 44,3%, а на вторичный рынок Беларуси – 55,7%.

В 2020 году «Белшина» произвела 4 млн шин. В том числе около 3 млн штук для легкового транспорта и почти 600 тысяч – для грузовых автомобилей и автобусов. Еще почти полмиллиона шин было выпущено других типоразмеров, включая сверхкрупногабаритные.

Традиционными за последние несколько лет внешними рынками для «Белшины» стали Россия, Украина, страны Закавказья и Средней Азии. Госкомпания осваивает и новые рынки для поставки своей продукции. Но тут возможности ограничены. Эффективно продавать легковую шину можно в радиусе 3 тысяч километров, грузовые и сельхозшины – 4,5–5 тысяч, а крупногабаритные и сверхкрупногабаритные – по всему миру. А с 3 июня «Белшина» вновь находится под санкциями США.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Ці быў дазволены праўладны пікет каля літоўскай амбасады ў Мінску?

*З такім пытаннем Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» звярнулася ў Мінгарвыканкам.*

Нагадаем: 4 жніўня каля амбасады Літвы ў Мінску прайшоў праўладны пікет з лозунгамі *«Літва – канцлагер XXI стагоддзя», «Літоўскія карнікі – забойцы дэмакратыі!», «Наўседу ў Гаагу»*. Падставай для пікета паслужылі паведамленні Дзяржпагранкамітэта пра смерць мігранта з Ірака на беларуска-літоўскай мяжы. Пікетоўцы каля будынка літоўскага пасольства паўсталі вокамгненна, як грыбы пасля дажджу, праз вельмі кароткі час пасля з'яўлення навіны аб тым, што здарылася, у праўладных тэлеграм-каналах. Прычым пікет быў зладжаны ў самы разгар працоўнага дня!

Напрыканцы мінулага тыдня мінскі гарадскі камітэт Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» накіраваў ліст у галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы і па справах моладзі Мінгарвыканкама з патрабаваннем растлумачыць, ці была гэта акцыя ўзгоднена гарадскімі ўладамі. Калі не і мерапрыемства ўсё ж было несанкцыянаваным, то чаму арганізатары пікета не прыцягнуты да адказнасці?

Прадстаўнікі партыі «Справядлівы свет» таксама просяць паведаміць, хто з'яўляўся арганізатарам пікета і ў адпаведнасці з якім артыкулам закона «Аб масавых мерапрыемствах» ён праводзіўся.




*«Мы лічым зусім недапушчальнай сітуацыю, калі прыхільнікі рэжыму могуць збірацца дзе заўгодна і праводзіць свае мерапрыемствы ў парушэнне закона «Аб масавых мерапрыемствах», у той час як апаненты ўлады за тыя ж дзеянні могуць атрымаць адміністрацыйны арышт або нават падпасці пад крымінальны пераслед*, – адзначаюць у прэс-службе партыі «Справядлівы свет». – *Асобна варта адзначыць, што тыя, хто апынуўся на «сутках» па палітычных прычынах, утрымліваюцца ва ўмовах, якія можна класіфікаваць як катаванні. Справа не ў тым, што мы хочам абмежаваць чыёсьці права на свабоду сходаў, але для нас відавочным з'яўляецца той факт, што двайныя стандарты тут зусім недапушчальныя»*.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

